

НЕЗАЛЕЖНАЯ ГАЗЕТА ШУМІЛІНШЧЫНЫ

# СЬВІТАНАК

*Беларусь, твой народ дачакаецца Залацістага, яснага дня! М. Багдановіч.*

№ 8 (154) ТРАВЕНЬ 2013 ГОД


ПОГЛЯД РЭДАКТАРА

## КАГО АБСЛУГОЎВАЮЦЬ ДЯРЖАЎНЫЯ РЭГІЯНАЛЬНЫЯ ГАЗЕТЫ?

**Восьмага траўня прайшла ўрачыстая цырымонія ўзнагароджання пераможцаў штогадовага абласнога спаборніцтва сярод сродкаў масавай інфармацыі. Кіраўнік вобласці Аляксандр Косінец сустрэўся з прадстаўнікамі СМІ з нагоды свята работнікаў друку, радыё, тэлебачання і сувязі. Падчас сустрэчы былі падведзены вынікі абласнога конкурсу СМІ. У ліку лепшых газет вобласці была адзначана і шумілінская раённая газета"Герой працы".**

Звяртаючыся да прысутных, кіраўнік вобласці адзначыў, што быць сувязным звяном паміж уладай і народам, аб'ектыўна адлюстроўваць усе рэаліі жыцця, падзеі, якія адбываюцца ў краіне і свеце, вельмі складана. Аляксандр Косінец упэўнены, што дзяржаўны друк не толькі адлюстроўвае тыя падзеі, якія адбываюцца, але ў той час служаць надзейнымі памочнікамі цяперашняй улады. Заходзячы з пазіцый выканаўчай улады, праўладныя газеты нясуць не толькі інфармацыю, але і фармуюць светапогляд насельніцтва, выхоўваюць грамадства, узбагачаюць яго маральна і духоўна. Старшыня аблвыканкама напомніў, што СМІ павінны падаваць праўдзівы матэрыял і адлюстроўваць рэчаіснасць. І найперш працаваць у інтарэсах простых грамадзян.

Пры падвядзенні вынікаў абласнога конкурсу былі ўручаны прэміі імя Францыска Скарыны рэдакцыям газет "Віцьбічы" і "Вячэрні Віцебск", "Патрыёт" (Ушачы), "Герой працы" (Шуміліна), "Голас Сенненшчыны".

Лепшым аглядальнікам прызналі намесніка галоўнага рэдактара газеты "Дняпроўская праўда" і праграмы радыёвяшчання "Дубровенскі радыёвеснік"Андрэя Кяіра. А самы выбітны рэпартаж у СМІ Віцебскай вобласці, на думку журы конкурсу, належыць пяру карэспандэнта наваполацкай "Новай газеты" Уладзіміру Факееву.

Не забыліся і пра тых, дзякуючы каму друкаваныя выданні даходзяць да людзей. Ганаровымі граматамі Віцебскага аблвыканкама ўзнагароджаны калектывы Пастаўскага раённага вузла паштовай сувязі, Аршанскага раённага вузла электрасувязі, Лепельскага раённага аддзялення Віцебскаблсаюздруку.

Засталося дадаць, што абласное спаборніцтва сярод сродкаў масавай інфармацыі праводзіцца з 2004 года. Яго мэта – садзейні¬чанне развіццю СМІ, павышэнню актуальнасці і ўзроўню публікацый, стымуляванне творчай актыўнасці журналістаў і прафесіяналізму паліграфістаў. Аднак на самай справе ці здольныя дзяржаўныя газеты даваць народу праўдзівую і непрадузятую інфармацыю? І як яны гэта могуць зрабіць, калі галоўныя рэдактары знаходзяцца пад жорсткім кантролем выканкамаў, у прыватнасці пад прэсам цэлай кагорты начальнікаў ідэалагічнага аддзела?

Сам кіраўнік Міністэрства інфармацыі Алег Праляскоўскі ў адным з інтэрв'ю "Народнай газеце" прызнаўся, чаго хацеў бы ад рэгіянальных СМІ. Не сакрэт, што нават самыя лепшыя выданні "застылі быццам у летаргічным сне" – як у творчым, так і тэхналагічным аспектах. І гэта нягледзячы на тое, што раённыя газеты займаюць першыя радкі ў рэйтынгу друкаваных СМІ – ступень даверу да іх сапраўды высокая. Але які змест большасці нумароў? Адна фатаграфія "перадавікоў", два-тры словы аб рабоце мясцовай улады і мноства рэкламы –вось як выглядае сярэднестатыстычная раёнка. У пагоне за самаакупнасцю (што, безумоўна, вельмі важна), газеты часам забываюць пра тое, што іх галоўная задача – інфармаваць пра падзеі ў сваім рэгіёне. Аднак наколькі гэта магчыма, калі рэдакцыя дзяржаўнай раёнкі напрамую падпарадкоўваецца адміністрацыі райвыканкама? Да таго ж яны адтуль атрымліваюць грошы на выданне. А хто плаціць, той і заказвае музыку.

"Я за тое, каб былі вострыя і крытычныя матэрыялы", – выказаў сваю пазіцыю міністр інфармацыі. – Калі ўсё прасаваць і прылізваць – чытаць і верыць вам не будуць." Безумоўна, людзі зараз маюць магчымасць параўнаць, што ў нас справы зусім не лепш, чым у суседніх краінах. Асабліва там, дзе справа тычыцца сярэдніх заробкаў і цэн на неабходныя тавары. Праўда, ад пытання пра стабільнасць тыражоў з года ў год Праляскоўскі адмахнуўся. "Гэта больш пытанне да кіраўнікоў прадпрыемстваў. Але я не бачу нічога дрэннага ў тым, што на прадпрыемстве, у цэху будуць знаходзіцца газеты і часопісы".

І сапраўды, чаму тады на дзяржпрадпрыемствах, арганізацыях і ва ўстановах існуюць абавязковыя планы падпіскі на дзяржаўныя выданні, якія ніхто не жадае выпісваць добраахвотна? Хіба гэта рынкавыя метады існавання дзяржаўных выданняў, якія і без таго цалкам сядзяць на бюджэце за кошт падаткаплацельшчыкаў?

**Аляксандр Шчамлёў**

КНІГА СКАРГАЎ

## СВАВОЛЬСТВА ЧЫНОЎНІКАЎ ПАДРЫВАЕ АЎТАРЫТЭТ УЛАДЫ

**Сем гадоў таму адзін гаспадар з райцэнтра атрымаў ад маці ў спадчыну хату ў вёсцы Крупчына. Апрацоўваў 50 сотак зямлі, вырошчваў гародніну, зерневыя культуры, касіў траву. А затым мясцовыя ўлады ўзялі ды знеслі хату без дазволу. Ужо некалькі гадоў мужчына безвынікова спрабуе дабіцца справядлівасці, абіваючы парогі розных інстанцый.**

Сказаць па праўдзе, газета не з'яўляецца ўладнай структурай, якая мае права вырашаць спрэчкі паміж грамадзянамі і чыноўнікамі. На карысць таго ці іншага боку. Аднак зварот аб нявырашаным пытанні паступіў, і рэдакцыя на яго абавязана рэагаваць адпаведным чынам. Грамадскасць павінна ведаць, як працуюць тыя чыноўнікі, якім грамадзяне даверылі ўладныя паўнамоцтвы ў раёне.

На першы погляд праблема быццам бы і дробязная. У рамках добраўпарадкавання тэрыторыі і навядзення парадку на зямлі была знесена лядашчая хата. Месца расчысцілі і прывялі ў належны парадак. Усё было б гладка, тым больш што да гэтай кампаніі мясцовых уладаў была афіцыйная падстава. Вясковай нерухомасцю сельскія Саветы ўшчыльную заняліся ў 2006-м пасля ўступлення ў сілу Указа Прэзідэнта №70 "Аб мерах па ўпарадкаванню, уліку і скарачэнню колькасці пустуючых і старых дамоў". Аднак у Светласельскім сельсавеце на той момант так захапіліся ліквідацыяй старых дамоў, што і не заўважылі, як парушылі закон. Магчыма парушэння і не здарылася, калі б хата не была пашкоджана пажарам. Часткова згарэў дах. Таму ў сельсавеце (на той час старшынёй быў У.У. Мартынаў) палічылі, што хата прыйшла ў заняпад, мае нядбайны выгляд і псуе наваколле сваім выглядам, бо недалёка праходзіць чыгунка Віцебск-Полацк. Толькі не ўлічылі адну важную акалічнасць – гаспадар ужо пачаў рабіць рамонт. Праўда, рамонт спадар Аўчыннікаў Уладзімір Аляксандравіч пачаў рабіць паступова – дарагія будаўнічыя матэрыялы на сціплую пенсію адразу не купіш. Самае прыкрае ў гэтай гісторыі тое, што кіраўніцтва сельсавета нават не палічыла неабходным спытаць дазволу законнага ўласніка, якому належала сядзіба. Па закону мясцовая ўлада поўнасцю распараджацца такімі дамамі не можа. Таму каб поўнасцю "навесці парадак" са струхлелымі падворкамі, трэба звярнуцца ў судовыя інстанцыі, бо толькі суд мае права прызнаць дом безгаспадарчым. А ў суд трэба прадаставіць пакет дакументаў, а каб іх аформіць, таксама патрэбны грошы. Карацей кажучы, перастараліся. Прычым з парушэннем заканадаўства – пацярпелы ўласнік звярнуўся ў раённую пракуратуру са скаргай. Пракуратура ў сваю чаргу абскардзіла рашэнне сельсавета. Але ж знесены дом не вернеш, таму ў Шумілінскім райвыканкаме спадару Аўчыннікаву прапанавалі ўзамен купіць поўнасцю дом аж…на тэрыторыі Обальскага сельсавета. Зразумела, што Уладзімір Аляксандравіч адмовіўся. Па- першае, занадта далёка ад месца пражывання, а па-другое, пачало падводзіць здароўе – ён ужо быў на пенсіі як інвалід другой групы. Ад участка ў 50 сотак, што ў Крупчыне таксама давялося адмовіцца – абслугоўваць паўгектара зямлі без хаты на месцы нязручна. Зараз спадар Аўчыннікаў жыве ў горпасёлку Шуміліна ў доме №18 па вуліцы Суворава.

Але як часта ў нас бывае – праблему завалакіцілі. Вядома, прасцей падобнае пытанне было б вырашыць у больш шматлюдных мястэчках, дзе налічваецца болей незапатрабаваных дамоў, пра якія забыліся нашчадкі. Пенсіянер дабіўся асабістага прыёму ў старшыні Віцебскага аблвыканкама Аляксандра Косінца, у прысутнасці якога цяпер ужо былы кіраўнік раёна Вальдэмар Пядляшчук абяцаў выдзеліць закінутую хату паблізу Шуміліна. Было вырашана даць і зямлю, каб гаспадар на ёй працаваў. Аднак і на гэты раз абяцанкі засталіся на паперы, балазе што Аўчыннікаў сабраў ужо цэлы стос розных адпісак, распараджэнняў, пастаноў, але воз і цяпер там. Амаль чатыры гады стаяў у чарзе заяўнікоў на ўчастак. Апошні раз дзесьці з год таму пенсіянер

*працяг на стар. 2*

ДУХОЎНАЯ СПАДЧЫНА

## ХРОСНЫ ХОД У ШУМІЛІНЕ

**22 траўня ў райцэнтры адбыліся ўрачыстасці ў гонар святога Мікалая Цудатворцы. Шумілінскія вернікі ўшанавалі хрысціянскага святціцеля ўрачыстым шэсцем і малітвамі.**

Праваслаўныя вернікі святкуюць дзень памяці аднаго з самых вялікіх і любімых у хрысціянскім свеце святых – святціцеля Мікалая Цудатворца, арцыбіскупа Мір Лікійскіх (Візантыя). Шануецца як цудатворац, лічыцца заступнікам маракоў, купцоў і дзяцей. У еўрапейскім фальклоры адлюстраваны ў выглядзе выявы Санта-Клауса. Ён нарадзіўся ў горадзе Патара Лікійскіх правінцый, на паўднёвым узбярэжжы Малаазійскага паўвострава, і быў адзіным сынам набожных бацькоў. Закліканы пасьвіць Царкву Божую ў архірэйскім сане, Свяціцель быў біскупам Мір Лікійскіх, і, застаючыся вялікім падзвіжнікам, уяўляў пастве вобраз пакоры, лагоднасціі і любові да людзей.

З гэтай нагоды ў імправізіраваным храме Святога Мікалая (прыстасаванае памяшканне пад царкву па вуліцы Вакзальнай) адбылася ўрастая літургія. Удзельнікаў хроснага ходу, маршрут якога браў пачатак ад вуліцы Вакзальнай і канечным пунктам стала месца будоўлі новай царквы, запрасілі на сумесную малітву. Праўда, на гэты раз людзей прыйшло няшмат, але шумілінцы не губляюць надзеі, што ў праваслаўных вернікаў таксама будзе свой храм. Арганізацыі раёна і асобныя грамадзяне працягваюць збіраць сродкі на будаўніцтва царквы. Прынамсі, будаўнічыя работы ідуць не так хутка, як хацелася б, але і прыхажане, і мясцовыя ўлады працягваюць чакаюць ахвяраванняў з боку больш багатых спонсараў, якія чамусьці не знаходзяцца.

**Алесь Прыбярэжны**

## Аб'ява

Каб атрымліваць кожны нумар газеты «Світанак» паведаміце рэдакцыі аб гэтым – зрабіце бесплатную падпіску. Калі не жадаеце атрымліваць газету, то патэлефануйце.

*********

Рэдакцыя « Світанка » змяшчае бясплатныя абвесткі чытачоў выдання. Дзеля размяшчэння абвесткі патэлефануйце ў рэдакцыю.

*********

Калі парушаны вашы правы спажыўца, працаўніка, то даем эфектыўныя парады па абароне права і пошуку бясплатных юрыстаў. Звяртайцеся на адрас газеты «Світанка».

*********

Рэдакцыя запрашае да супрацоўніцтва неабыякавых грамадзян. Вашы навіны, паведамленні – нашая падзяка. Словам, сувенірам

## "СВІТАНАК" У ІНТЭРНЭЦЕ

Наша газета стала размяшчацца на партале http://kamunikat.org/ , дзе зацікаўленыя грамадзяне могуць яе спампаваць са старонкі: http://kamunikat.org/svitanak.html , што у каталогу "Пэрыёдыка" для далейшага выкарыстання яшчэ да з'яўлення газеты на паперы.

САЦЫЯЛЬНАЕ АБСЛУГОЎВАННЕ

# СЕЛЬСКАЯ БАЛЬНІЦА ПЕРАТВАРЫЛАСЯ Ў ІНТЭРНАТ ДЛЯ САСТАРЭЛЫХ

**Бальніца сястрынскага нагляду ў Мішневічах змяніла шыльду. Зараз гэта памяшканне называецца: аддзяленне кругласутачнага прабывання састарэлых грамадзян Тэрытарыяльнага цэнтра сацыяльнага абслугоўвання насельніцтва.**

Медыцынскі персанал застаўся ранейшым, толькі працы цяпер прыбавілася. І хацяту тпланавалі размясціць старых першай і другой групы рухомасці, здарылася так, што цяжкахворых не было дзе размясціць. Таму з 18 чалавек у аддзяленні для састарэлых налічваецца 7 ляжачых хворых. Калі да адных пажылых людзей яшчэ прыязджаюць дзеці, то іншым няма на каго спадзявацца, акрамя работнікаў сацыяльнай службы.

Для пашырэння спектра сацыяльных паслуг уводзяцца новыя формы работы і ўдасканальваюцца старыя. Так, сёлета ў былой бальніцы работнікі сацыяльнага Цэнтра плануюць стварыць гурткі па інтарэсах, каб старыя маглі займацца любімай справай. Да прыкладу, каля інтэрната ёсць зямельны ўчастак, на якім можна зрабіць градкі і вырошчваць гародніну. Асобнага палажэння па бюджэтных сродках на ўтрыманне інтэрната для састарэлых пакуль няма. З агульных 600 мільёнаў рублёў, выдзеленых Тэрытарыяльнаму цэнтру, грошы расходуюцца і на патрэбы аддзялення кругласутачнага прабывання. Маюцца і пазабюджэтныя сродкі, але ўсё роўна грошай не хапае. На днях набылі пральную машыну, лядоўню і тэлевізар. Праўда, з раённага бюджэту выдалі яшчэ 20 мільёнаў рублёў, якія пайшлі на рамонт. З раённага аддзялення фонда міру прывезлі тры дзесяткі падушак. Яшчэ не хапае пакрывалаў, прыложкавых дыванкоў, адзення. Зараз кіраўнікі Цэнтра шукаюць спонсараў, звярнуліся да Віцебскага дывановага камбіната.

Не існуе агульных правілаў ва ўзаемаадносінах паміж людзьмі, таму наўрад ці можна ўявіць тую каласальную псіхалагічную нагрузку, якую нясуць на сабе супрацоўнікі сацыяльнай службы, штодзённа уступаючы ў кантакт з хворымі ці проста пакрыўджанымі лёсам людзьмі, роднымі пажылых людзей і людзей з абмежаванымі магчымасцямі, якім неабходна наша дапамога і падтрымка. І яны будуць імкнуцца аказваць такую дапамогу ўсім, хто мае ў ёй патрэбу. Тварыць добрае на карысць людзям.

**Уладзімір Амбросаў**

# СВАВОЛЬСТВА ЧЫНОЎНІКАЎ ПАДРЫВАЕ АЎТАРЫТЭТ УЛАДЫ

*пачатак на стар. 1*

быў на прыёме ў старшыні Шумілінскага райвыканкама Уладзіміра Куранного. Кіраўнік раёна пераадрасаваў пытанне старшыні райсавета Ірыне Новікавай, якая цяпер і трымае справу на кантролі. Верагодна, шаноўны чытач задасца пытаннем: а навошта чалавеку, якому ўжо даўно за шэсцьдзесят, пражывае ў райцэнтры каля цывілізацыйных даброт, дачны дамок і дадатковыя соткі зямлі? Пенсію плацяць рэгулярна, шырокі асартымент прадуктаў завозяць у крамы, побач райбальніца, чаго яшчэ чалавеку жадаць пад старасць? Але, па ўсяму відаць, гэта і ёсць той знакаміты наш сялянскі менталітэт, паводле якога кожны беларус марыў аб уласнай зямлі, на якой быў бы гаспадаром свайго лёсу.

Але як бы там ні было, гэта гісторыя стала для шумілінскіх чыноўнікаў яшчэ адным павучальным прыкладам, як не трэба праяўляць самаўладдзетам, дзе закон на баку грамадзяніна. Гэты выпадак не застаўся не заўважаным і ў афіцыйных СМІ – былі апублікаваны тры артыкулы у мясцовай раёнцы "Герой Працы". Першы ў чэрвені 2006 года –"Старыя дамы: знесці ці аднавіць", у 2008 годзе за 16 снежня –"Па слядах адной скаргі", яшчэ адзін –"А хату разабралі без дазволу". Не змаглі дамовіцца з уласнікамі аб зносе старой хаты, калі нерухомасць зарэгістравана – тады ідзіце іншым, больш клопатным, але прававым шляхам – звяртайтеся у суд. Нават калі ўжо парушылі правы ўласніка – прасіце прабачэння і кампенсуйце матэрыяльны ўрон. Аднак самавольшчыкі ў раёне па-ранейшаму беспакарана распараджаюцца чужой маёмасцю. Вельмі ўжо прывыклі за гады савецкага рэжыму не лічыцца з правамі цэлага народа. Кожны дробязны клерк, дарваўшыся да ўлады ў раёне, па-ранейшаму працягвае лічыць сам сябе і урадам, і пракурорам, і суддзёй, і вайсковым галоўнакамандуючым.

**Аляксандр Шчамлёў**

КУЛЬТУРНАЯ ПАДЗЕЯ

# НОВЫ ТВОР КРАЯЗНАЎЦЫ

**Пабачыла свет новая кніга шумілінскага даследчыка і краязнаўцы Віктара Улюценкі "Камні гавораць". Новы твор стаў працягам ранейшай кнігі "У краіне каменных волатаў".**

А пачаліся літаратурныя выданні з серыі артыкулаў "Валуны – помнікі прыроды Шумілінскага раёна і іх гісторыя". Краязнаўца і паэт, апавядальнік і проста няўпынна творчая натура, В. В. Улюценка – вядомы ў раёне чалавек. Менавіта на падставе апавяданняў, вершаў і артыкулаў Віктар Васільевіч (Антон Параскевін) пачаў сваю творчую дзейнасць выданнем кніг, прысвечаным роднаму краю. Яго вечная і самабытная тэма "быць зямлі сваёй сынам". Гэта тэма любві і вернасці сваёй хаце, сваім сябрам, з кім рос і станавіўся, як бусел, на крыло, тэма любві да сваёй маленькай радзімы. Яго паэзія светлая, як і светапогляд аўтара, які настойліва і крапатліва збіраў матэрыял для гэтай кнігі амаль усё сваё жыццё. Уражанні Антон Параскевін апрацоўваў і ўкладваў у вершаваныя радкі, легенды ўплятаў у мастацкія навелы. Гэта быў не проста збор матэрыялу і яго літаратурны пераказ, гэта род служэння зямлі, каханай атарам нашай ШумілінШчыне.

Валуны складаюць неад'емную частку ландшафту, здаецца, прыбяры іх – і беларуская прырода збяднее. Вучоныя называюць гэтыя тварэнні прыроды камянямі-падарожнікамі і сцвярджаюць, што яны многае могуць расказаць пра геалагічнае мінулае і пра скарбніцы роднага краю. Памяць нашых дзядоў-прадзедаў захавала дзіўныя паданні і легенды пра валуны. У мінулым камяні шанавалі, як святых. Як элементы духоўнага і матэрыяльнага жыцця людзей многія валуны трапілі ў спіс помнікаў гісторыі і культуры Беларусі.

Гэта толькі здаецца, што камяні маўчаць, запэўнівае нас аўтар. Калі палюбіць іх, паспрабаваць пачуць іх таямніцу, то яны змогуць расказаць нямала цікавага аб шматвяковай гісторыі краю. Пошук валуноў на ШумілінШчыне працягваецца, а вядуць яго неабыякавыя, як наш Антон Параскевін, творчыя асобы. Антон Параскевін стаў своеасаблівым адкрывальнікам многіх камянёў. Нібыта размаляў з імі, збіраў усё новыя і новыя паданні пра іх.

Пра ўсё гэта і многае іншае можна даведацца, прачытаўшы кнігу "Камні гавораць", якую можна ўзяць ў гарадской цэнтральнай бібліятэцы.

**С.Горкі**

ДЗЯРЖАНКТРОЛЬ

# ВЫЯЎЛЕНЫ ПАРУШЭННІ Ў ДЗІЦЯЧЫХ САДКАХ

**Пракуратура выявіла шэраг парушэнняў у працы дзіцячых садкоў Віцебшчыны. Па па выніках праведзенай праверкі пракурорамі гарадоў і вобласці было ўнесена 19 прадстаўленняў, 1 пратэст. У дачыненні да васьмі службовых асобаў накіраваны патрабаванні аб узбуджэнні адміністрацыйных пратаколаў. Сярод рэгіёнаў вобласці парушаны нормы заканадаўства, накіраванага на абарону дзяцей і ў дашкольных установах Шумілінскага раёна.**

Па выніках разгляду прадстаўлення пракуратуры ўпраўленнем адукацыі Віцебскага аблвыканкама да дысцыплінарнай адказнасці прыцягнуты шэраг службовых асобаў аддзелаў і ўстаноў адукацыі з 15 рэгіёнаў вобласці.

Так, у асобных дзіцячых садках Віцебскага, Браслаўскага раёнаў, Віцебску не выконваўся парадак прыёму выхаванцаў. У некаторых установах дашкольнай адукацыі абласнога цэнтру, Полацка, Полацкага, Браслаўскага, Міёрскага раёнаў не вытрымліваліся нормы напаўняльнасці груп дзецьмі. Таксама былі выяўлены выпадкі невыканання тэмпературнага рэжыму, факты неналежнага агароджвання тэрыторыі, наяўнасці дэфектаў металічнага абсталявання на гульнявых пляцоўках, неабходнасці правядзення рамонту фасадаў будынкаў, навесаў, веранд і тэрас.

Агульны характар носяць пытанні забеспячэння пажарнай бяспекі ў шэрагу дашкольных устаноў Шумілінскага, Глыбоцкага, Віцебскага, Полацкага, Талачынскага, Шаркоўшчынскага і іншых раёнаў. Праблемы, звязаныя з асвятленнем памяшканняў, арганізацыяй харчавання дзяцей, станам харчаблокаў і санітарных вузлоў былі выяўленыя ў асобных дзіцячых садках Полацка, Наваполацка і Оршы, Полацкага, Расонскага, Шаркаўшчынскага, Віцебскага, Гарадоцкага, Мёрскага, Дубровенскага, Лепельскага, Пастаўскага, Лёзненскага, Сенненскага, Браслаўскага і Шумілінскага раёнаў.

Падчас рэалізацыі праграм абароны правоў і законных інтарэсаў дзяцей, якія знаходзяцца ў сацыяльна небяспечным становішчы зафіксаваны парушэнні патрабаванняў, што прад'яўляюцца да парадку выяўлення непаўналетніх, якія маюць патрэбу ў сацыяльнай абароне.

**С. Горкі**

ТРАНСПАРТ

# НАВЕДЗЕНЫ АЎТАДАРОЖНЫ МОСТ ПРАЗ ЗАХОДНЮЮ ДЗВІНУ

**Шумілінскі і Бешанковіцкі раёны апошнія гады злучаюцца пантонным мостам, што ўстанаўліваюць вайскоўцы. Сёлета пантонны мост працягласцю 184 метры быў устаноўлены за два з паловай дні.**

Наведзены ён вайскоўцамі чыгуначнага батальёна. Даўжыня моста - 184 метры, шырыня праезнай часткі - 4 метры, грузападымальнасць - 40 тон.

На мяжы Шумілінскага і Бешанковіцкага раёнаў, на Заходняй Дзвіне, прайшлі спецыяльныя тактычныя вучэнні. У іх бралі ўдзел жаўнеры 259-га асобнага мабільна-ўзнаўленчага батальёна 30-й асобнай чыгуначнай брыгады транспартных войск, якія і наладзілі аўтадарожны мост.

Навядзенне моста ажыццёўлена ў рамках дзяржаўнай праграмы "Дарогі Беларусі". Калі ў мінулым годзе ён быў выключна пешаходным, каб не перашкаджаць шляху курсіравання барж з пяском да электрастанцыі, што будуецца на Дзвіне, то сягоння аднаўлены ў сваім звычайным фармаце.Мост скароціць аб'язныя шляхі для сельгастэхнікі і аўтамабіляў на адлегласць да 100 кіламетраў і дазволіць аператыўна вырашаць пытанні па забеспячэнні жыццядзейнасці правабярэжжа Бешанковічаў.

**Я. Вайтовіч**

ЗДАРЭННІ

# ФУРА ПРАТАРАНІЛА МАШЫНУ ХУТКАЙ ДАПАМОГІ

Жудасная і смяротная аварыя адбылася 23 траўня каля 8:20 на трасе Віцебск - Полацк у раёне вёскі Пушча Шумілінскага раёна. Грузавы аўтамабіль "ДАФ" урэзаўся ў "Мэрсэдэс" брыгады хуткай медыцынскай дапамогі, які спыніўся на абочыне з-за тэхнічнай няспраўнасці ў рухавіку.

У выніку аварыі апынуліся заблакаваныя пяць чалавек, якія знаходзіліся ў салоне мікрааўтобуса. З пяці жанчын, якія знаходзіліся ў салоне машыны хуткай дапамогі, чацвёра загінула, яшчэ адна шпіталізавана ў цяжкім стане ў Шумілінскую раённую бальніцу.

Кіроўцы не пацярпелі. У момант сутыкнення "хуткая" стаяла на абочыне дарогі для ліквідацыі паломкі ў маторным адсеку. У гэты час у яго ўрэзаўся грузавы аўтамабіль ДАФ. Сіла ўдару была настолькі моцнай, што мікрааўтобус адкінула далёка ў поле. Усе загінуўшыя жанчыны – медыкі, якія займалі адказныя пасты ў сістэме аховы здароўя Полацка і Полацкага раёна.

«ПРАВАВАЯ» ДЗЯРЖАВА

# СЫНДРОМ БЯСХІБНАСЬЦІ

**У адной з кніжак пра сталінскія рэпрэсіі 1930-х гадоў у СССР мяне ўразіў такі выпадак. Адна хатняя гаспадыня прысьніла, што яна сьпіць з маршалам Варашылавым. На раніцу яна распавяла пра гэты свой сон на кухні камунальнай кватэры. Пасьля даносу ў органы яе арыштавалі і адправілі ў лягер. Гісторыя, як на тыя часы, пры ўсім сваім трагізьме досыць звычайная. Што ў ёй найбольш уражвае — гэта фармулёўка абвінаваўчага заключэньня: «За неэтычныя сны пра правадыроў». Чалавек, выходзіць, нёс крымінальную адказнасьць нават за свае сны.**

Тая гісторыя прыгадалася, калі прачытаў паведамленьне з хронікі сёньняшняга беларускага правасудзьдзя. «Пры канцы красавіка Менскі гарадзкі суд на закрытым пасяджэньні пастанавіў прызнаць былога дыспэтчара электрасетак Брагінскага раёну Мікалая Сілівончыка вінаватым у абразе прэзыдэнта і распальваньні нацыянальнай варажнечы, зьдзейсьненых «у стане непрытомнасьці». То бок, з гледзішча беларускага суду, за дзеяньні ў стане непрытомнасьці чалавек нясе прававу адказнасьць.

Сумныя гістарычныя паралелі прыйшлі на розум і пасьля паведамленьня пра папярэджаньне журналісту нашага радыё Алегу Грузьдзіловічу, вынесенае Менскай гарадзкой пракуратурай. Дакумэнт вельмі дзіўны з гледзішча нават звычайнай логікі, ня кажучы ўжо пра прававу. Яго аўтары нават не паклапаціліся пра нейкае ўцямнае юрыдычнае абгрунтаваньне. З «Афіцыйнага папярэджаньня» так і не зразумела, за што яно вынесена, якія палажэньні якога закону парушыў журналіст.

Пасьля ўважлівага вывучэньня гэтага дакумэнту можна здагадацца, што Грузьдзіловічу закідаюць два парушэньні. Першае. У папярэджаньні гаворыцца: «Вы, зьяўляючыся журналістам Радыё Свабода, ажыцьцявілі акцыю па пранікненьні на станцыю мэтро „Фрунзенская“ з мэталічнымі прадметамі ў сумцы, якая нагадвае выкарыстаную арганізатарамі тэракту ў менскім мэтрапалітэне 10.04.2011. Па выніках праведзенага мерапрыемства Вамі на інтэрнэт-сайце www. svaboda. org разьмешчаны крытычны артыкул „Зь вялікай торбай у мэтро: з двух разоў праверылі адзін і ў торбу не зазірнулі“ зь відэасуправаджэньнем».

Узьнікае пытаньне: у чым тут парушэньне закону? У тым, што прайшоў у мэтро з мэталічнымі прадметамі? А які закон гэта забараняе? Ці ў тым, што надрукаваў крытычны артыкул?

Другі пункт — больш сур'ёзны. Аказваецца, у кнізе Алега Грузьдзіловіча «Хто ўзарваў менскае мэтро?» «ставіцца пад сумнеў аб'ектыўнасьць афіцыйных вынікаў расьсьледаваньня крымінальнай справы па факце выбуху ў менскім мэтрапалітэне, а таксама справядлівасьць беларускай судовай сыстэмы ў цэлым».

Зь якой гэта пары сумнеў у выніках расьсьледаваньня крымінальнай справы ці ў справядлівасьці судовай сыстэмы ў цэлым зрабіўся парушэньнем закону? Які канкрэтна заканадаўчы акт парушаны ў такім выпадку?

Увогуле, тэзіс аб бясхібнасьці дзяржаўных інстытутаў — гэта адна з галоўных прыкмет таталітарызму. Ці азначае гэта, што Менская гарадзкая пракуратура гэтым сваім папярэджаньнем юрыдычна замацоўвае ў Беларусі таталітарны лад? І ўвогуле, як можна казаць пра абсалютную аб'ектыўнасьць судовых прысудаў, калі шмат якія зь іх абскарджваюцца пракуратурай ці адмяняюцца судамі вышэйшых інстанцыяў?

Ці азначае гэта, што судзьдзі цяпер у Беларусі па-за крытыкай? І нават тыя, якія абвінавачваюць грамадзяніна за дзеяньні, учыненыя «ў стане непрытомнасьці»?

Ці можна цяпер крытыкаваць сяржанта міліцыі (што зрабіў Грузьдзіловіч у сваім артыкуле пра ахову мэтро), бо гэта будзе расцэнена як сумнеў у справядлівасьці беларускай міліцыі? А сьлесара-сантэхніка? Гэта ж замах на справядлівасьць сыстэмы камунальнай гаспадаркі!

Адмыслова для работнікаў менскай пракуратуры. Паводле сацыялягічнага апытаньня НІСЭПД, у верасьні 2011 году толькі 21,2% грамадзян верылі ў афіцыйную вэрсію тэракту ў менскім мэтро. А ў сьнежні 2012 году судам давярала 40,8% беларускага насельніцтва, а не давярала — 43,5%. Адпаведна, пракуратуры давярала 37,8%, а не давярала — 46,8%. Ці азначае гэта, што цяпер большасьць грамадзян будуць выклікаць у пракуратуру і рабіць ім афіцыйнае папярэджаньне за тое, што яны ня вераць у аб'ектыўнасьць і справядлівасьць беларускага правасудзьдзя?

У папярэджаньні таксама робіцца намёк, што Грузьдзіловіч працуе на Радыё Свабода, якое зьяўляецца замежным мэдыя. А прадстаўленьне замежнай дзяржаве заведама няпраўдзівых зьвестак пра палітычнае, эканамічнае, сацыяльнае становішча Рэспублікі Беларусь, прававое становішча грамадзян РБ нібыта дыскрэдытуе краіну.

Але, па-першае, магчыма, у пракуратуры ня ведаюць, што беларуская служба Радыё Свабода вяшчае на Беларусь, а не на замежжа. І па-другое і самае галоўнае: нішто так не дыскрэдытуе Беларусь, як некаторыя дзеяньні беларускіх дзяржаўных органаў.

**Валер Карбалевіч**

ДЭМАКРАТЫЧНЫ РУХ

# РУХ «ЗА СВАБОДУ», «ГАВАРЫ ПРАЎДУ!» І ПАРТЫЯ БНФ ДАМОВІЛІСЯ АБ КААЛІЦЫІ

**Грамадзянская кампанія «Гавары праўду!», Рух «За Свабоду» і Партыя БНФ заявілі пра доўгатэрміновае стратэгічнае партнёрства. «Такога кроку дагэтуль беларуская апазіцыя не рабіла», — сказаў лідар «Гавары праўду!» Уладзімір Някляеў на прэс-канферэнцыі ў Мінску 20 мая.**

Мэта партнёрства — палітычныя і эканамічныя змены ў Беларусі, што немагчыма без змены ўлады, падкрэсліў Някляеў.

Ён выказаў упэўненасць у тым, што стратэгічныя партнёры змогуць знайсці адказ і на пытанне аб тым, хто будзе адзіным кандыдатам у прэзідэнты на выбарах 2015 года.

«Гэта будзе чалавек, які прадстаўляе не толькі апазіцыю, але і большую частку насельніцтва, што выступае за перамены», — заявіў Някляеў, кандыдат у прэзідэнты на выбарах 2010 года.

Паводле яго слоў, супрацоўніцтва разлічана прынамсі на тры найбліжэйшыя выбарчыя кампаніі — выбары ў мясцовыя саветы, прэзідэнцкія і парламенцкія выбары.

Як растлумачыў Някляеў, сёння было вырашана правесці сустрэчу трох арганізацый, таму што ў іх «ёсць дамоўленасці па ўсіх пытаннях». «У нас ёсць дамоўленасці і з іншымі арганізацыямі, але не ў такім аб'ёме. Але мы чуем усе іх прапановы — і адносна выбару адзінага кандыдата, і адносна фарматаў удзелу ў мясцовых выбарах», — падкрэсліў палітык.

У сваю чаргу лідар руху «За Свабоду», адзіны кандыдат у прэзідэнты ад дэмсіл на выбарах 2006 года Аляксандр Мілінкевіч заявіў: «Не трэба баяцца, што тут сядзіць не ўся апазіцыя».

«Калі б тут былі ўсе арганізацыі, мы маглі б загаварыць працэс. Мы доўга працавалі разам і выпрацавалі прапановы, якія, думаю, падтрымаюць усе», — сказаў Мілінкевіч. Ён таксама падкрэсліў: партнёрства не азначае стварэння адзінай арганізацыі.

Старшыня Партыі БНФ Аляксей Янукевіч выказаў упэўненасць у тым, што «разам будзе лягчэй адстойваць як палітычныя мэты кожнай арганізацыі, так і нацыянальныя інтарэсы Беларусі».

**Белапан**

СПАРТЫЎНАЯ ПЕРАМОГА

# СТАРАЯ ДОБРАЯ СКАЗКА

**Во втором финальном матче гандбольного Кубка вызова минский СКА уверенно взял верх над люксембургским «Эшем» – 32:24 (16:11) и стал обладателем трофея.**

Нет смысла подробно описывать незамысловатые перипетии конкретного матча: после выездной победы со счетом 31:26 сомнений в том, что армейцы завоюют Кубок, практически не было. Отметим лишь, что лучшими бомбардирами в составе СКА традиционно стали Борис Пуховский (9 мячей) и Сергей Шилович (6).

Поговорить хочется о другом. В восьмидесятые годы прошлого столетия минский клуб был сильнейшим в мире. Тогда СКА собрал коллекцию из трех Кубков европейских чемпионов и двух Кубков обладателей кубков.

Увы, времена, когда белорусы доминировали на международной гандбольной арене, канули в Лету. Казалось, безвозвратно. Наши сборные клубы стали даже не середнячками, а порой весьма удобными соперниками для других.

Но творец успехов тридцатилетней давности Спартак Миронович в этих безнадежных условиях продолжал кропотливо делать свое дело. Из подручного материала он раз за разом пытался собрать работающий механизм.

И накануне 75-летия удача улыбнулась Спартаку Петровичу. Нет, не так – судьба воздала должное. Нынешняя победа стала результатом многолетнего труда, а не капризом Фортуны.

Конечно, Кубок вызова – это не Кубок европейских чемпионов. Но и в этом турнире у белорусских клубов уже много лет не было не только триумфа, но хотя бы сопоставимых с ним результатов.

Банально, но, чтобы добиться больших побед, мы должны научиться ценить и меньшие по размерам. Так что, ныне стоит порадоваться за СКА и Спартака Петровича.

Команда в нынешнем виде просуществует буквально пару недель. Уже 29 мая СКА на «Минск-Арене» ждёт битва за звание чемпиона Беларуси со столичным «Динамо». Затем еще скоротечные кубковые сражения – и всё, сезон завершен. А по его окончании команду покидает трио лидеров: Борис Пуховский, Сергей Шилович и Александр Титов.

Но Спартак Петрович не унывает и не собирается на покой. В интервью TUT.BY он говорит:

– Ничего страшного. Будем играть молодыми, готовить их к сборной. За свою историю СКА не раз приходилось ставить подобные задачи, возможно, в ущерб спортивным результатам. Собственно, мы и теперь не отступаем от своих принципов, работаем на главную команду страны. А побеждать хотим всегда.

Великий тренер сохраняет не только присутствие духа, но и чувство юмора. В ответ на просьбу подвести итог последних пяти лет констатирует:

– Ну что тут сказать. Я до сих пор жив. Назло надменному соседу по даче.

Даже в самых, казалось бы, безнадежных ситуациях нельзя опускать руки. В этом заключается последний урок старого Мастера.

**Александр Старикевич**

БЕЛАРУСЬ - ЗША

# «БЕЛТЭХЭКСПАРТ» АБЯЛІЎ СЯБЕ ПЕРАД ЗША?

Тэрмін санкцыяў супраць «Белтэхэкспарту» скончыўся, а Дзярждэпартамэнт ня стаў іх працягваць.

На сайце Дзярждэпартамэнту, дзе зьмешчаны сьпіс прадпрыемстваў розных краінаў, супраць якіх ЗША ўводзілі санкцыі, пазначана, што апошні раз іх працягвалі супраць «Белтэхэкспарту» ў траўні 2011. Тэрмін дзеяньня санкцыяў скончыўся 23 траўня 2013, далей іх ніхто не перагладаў, такім чынам «Белтэхэкспарт» ад 24 траўня аўтаматычна можа лічыць сябе вольным ад пакараньня.

Дзярждэп ЗША увёў санкцыі ў дачыненьні да «Белтэхэкспарту» 14 ліпеня 2010 году за парушэньне Акту аб нераспаўсюджаньні ў дачыненьні да Ірану, Паўночнай Карэі і Сірыі.

Як растлумачылі TUT.BY у «Белтэхэкспарце», пасьля ўвядзеньня санкцыяў кіраўніцтва кампаніі ўсчало актыўныя дзеяньні па абароне рэпутацыі: пачало пісаць звароты ў розныя юрыдычныя кампаніі, прыцягваць экспэртаў. У 2012 пакет дакумэнтаў быў накіраваны ў ЗША. Сёлета ў красавіку ў Вашынгоне адбылася сустрэча прадстаўнікоў «Белтэхэкспарту» з прадстаўнікамі Дзярждэпартамэнту, у выніку чаго, трэба меркаваць, да пытаньня санкцыяў было вырашана не вяртацца.

Санкцыі Эўразьвязу ў дачыненьні да гэтай кампаніі па-ранейшаму дзейнічаюць, як і ў дачыненьні да іншых кампаній, якія ў ЭЗ лічаць падкантрольнымі Уладзімеру Пефціеву.

**«Радыё Свабода»**

СУБСІДЫІ ДАРМАВЫЯ?

# ЭНЕРГЕТЫЧНЫЯ СУБСІДЫІ РАСІІ Ў $ 10 МЛРД

**Беларусь за кошт ільготных коштаў на энергарэсурсы атрымала ў 2012 годзе ад Расіі субсідый на суму каля 10 млрд доляраў. Да такой высновы прыйшлі супрацоўнікі Інстытута эканомікі Нацыянальнай акадэміі навук Беларусі.**

"За кошт ільготных коштаў на энерганосьбіты Рэспубліка Беларусь ў 2012 г. зэканоміла каля 10 млрд доляраў", - сказана ў артыкуле вучоных "Перспектывы функцыянавання эканомікі Беларусі ў сістэме АЭП і СГА", апублікаванай у ведамасным часопісе Нацбанка РБ "Банкаўскі веснік".

Эксперты інстытута адзначылі, што сума энергасубсідый складаецца за кошт механізму бяспошліннай пастаўкі нафты ў Беларусь і льготнай цаны на расейскі газ.

У мінулым годзе Беларусь атрымала 21,3 млн. тон бяспошліннай расійскай нафты, выплаціўшы ў бюджэт РФ пошлін з экспартуемых нафтапрадуктаў на суму 3,8 млрд даляраў. "Калі ўлічыць, што пры пошліне на нафту ў канцы 2012, роўнай 396,5 даляра за тону, выплаты ў расійскі бюджэт склалі б каля 8,4 млрд. даляраў, выгада склала каля 4,6 млрд даляраў", - робяць выснову эксперты Інстытута эканомікі.

Ацэньваючы субсідыі пры пастаўках прыроднага газу, эксперты суаднеслі фактычную цану для Беларусі з коштам паставак ва Украіну. Сярэдняя цана на газ з Расіі для Беларусі ў мінулым годзе склала 168 даляраў за 1 куб. м. "Калі параўнаць з коштам для Украіны, роўнай каля 430 даляраў за 1 куб. м, то пры імпартавала аб'ёме, роўным 20,3 млрд. куб. м, выйгрыш склаўся ў памеры каля 5,3 млрд даляраў", - гаворыцца ў артыкуле .

Такім чынам, толькі за кошт ільготных коштаў на энерганосьбіты Беларусь у 2012 годзе зэканоміла каля 10 млрд доляраў.

Разам з тым навукоўцы заклікаюць ўлічваць той факт, што "згодна са сваім абавязальніцтвам перад Сусветнай гандлёвай арганізацыяй (СГА) Расія пасля заканчэння пераходнага перыяду будзе абавязанная прадаваць энергарэсурсы па сусветных цэнах, а гэта непазбежна павысіць затратнасць ўсіх галін народнай гаспадаркі".

10 млрд даляраў для беларускай эканомікі даволі істотная сума. Дастаткова сказаць, што аб'ём ВУП Беларусі ў 2012 годзе склаў 63 млрд даляраў. Акрамя таго, сальда бягучага рахунку плацёжнага балансу склалася адмоўным у памеры 1,8 млрд даляраў.

У цяперашні час Мінск і Масква вядуць перамовы з нагоды павелічэння паставак нафты на беларускія НПЗ у трэцім і чацвёртым кварталах 2013 года. Урад Расіі падрыхтаваў ліст беларускаму боку пра нежаданне ўзгадняць дадзены аспект. Прычына - у зацягванні рэалізацыі сумесных інтэграцыйных праектаў.

**www.tut.by**

ТАКІ ТУРЫЗМ

# ЯК "ГАЗПРАМ" ПАГУДЗЕЎ Ў ВІЦЕБСКУ

**"Газпрам" праводзіў свой чарговы штогадовы карпаратыў ў ціхім, утульным Віцебску. Ад таго, як прывыклі адпачываць расейцы, у беларусаў валасы на галаве ўстаюць дыбам.**

14 мая ў Віцебску пачаўся тыднёвы фестываль "Газпрама" "Паходня". Расійскі газавы манапаліст раней "запальваў" у Геленджыку, але з тых часоў, як Беларусь прадала суседу сваю газавую трубу, вырашыў паспрабаваць павесяліцца тут.

Аляксею Мілеру і іншым кіраўнікам спадабалася. Кіраўнік "Газпрама" нават заявіў, што адчувае сябе ў Віцебску "як дома". Яно і зразумела: Віцебск спецыяльна для гэтых дарагіх гасцей (якіх, дарэчы, звезлі ў Віцебск ў колькасці амаль чатырох тысяч) адрамантаваў некалькі канцэртных залаў, падправіў дарогі, пачысціў вуліцы і паркі. "Газпраму" нават далі магчымасць завешаць увесь горад сваімі бігбордамі і банэрамі над праспектамі. Гасцей асабіста сустракаў і віншаваў прэзідэнт Аляксандр Лукашэнка. Мілер так ўразіўся, што паабяцаў: ўсе наступныя свае фестывалі будзе праводзіць менавіта тут, у культурнай сталіцы Беларусі.

Так што цяпер у Віцебска цэлых два важных гарадскіх свята - "Паходня" і "Славянскі базар". Прычым, які з іх апынецца важнейшым, яшчэ вялікае пытанне.

У гэтым годзе карпаратыўны фестываль надзвычай моцна падняў на вушы мясцовых жыхароў. Беларусы ніяк не могуць прыйсці ў сябе пасля таго, як на свае вочы пераканаліся, што робіць з адпачывальнікамі газавікамі лішак сродкаў і асаблівасці ці то наваруcкай, ці то карпаратыўнай культуры.

У Віцебску, у якім ніхто ніколі не ведаў ні коркаў, ні праблем з паркоўкамі, мясцовыя аўтамабілісты адчулі сябе, як падчас "Славянскага базару".

Горад запоўнены групамі нецвярозых мужчын і жанчын, прыбраных у сінія карпаратыўныя майкі. Госці ўжо цалкам асвоіліся і адчуваюць сябе нашмат лепш, чым дома. Нягледзячы на тое, што самім беларусам піць у цэнтры горада піва як нельга было раней (вось ужо некалькі гадоў), так і цяпер, міліцыя да "блакітных" ставіцца абыякава. Кажуць, "зверху" была спушчана каманда -- гасцей не чапаць. "Даўнютка я не бачыў людзей, каб свабодна цягаліся па горадзе з півам", - дзівіцца на адным з гарадскіх форумаў мясцовы жыхар.

Ва ўсіх цэнтральных крамах абласнога цэнтра бесперапынна купляюць алкаголь: пенсіянеры ўжо не могуць без праблем купіць хлеба і малака. "Людзі ўжо не ходзяць у крамы кожны дзень, а аддаюць перавагу "затарыцца" адразу на ўвесь тыдзень: і шанцаў "атрымаць па мордзе ад п'янага менш", і кучу часу на стаянне ў чэргах марнаваць не трэба, прызнаўся карэспандэнту "Росбалта" Вадзім Траццякоў, 28 -гадовы мясцовы жыхар.

Расейцы зараз, сапраўды, ганяюць па Віцебску, як вар'яты. Даішнікі дазваляюць ім не толькі парkавацца на тратуарах (мясцовыя не дазваляюць сабе нават выкарыстоўваць для гэтага бардзюры), але і парушаць хуткасны рэжым, ездзяць на чырвоны. Часцей за ўсё даішнікі проста "папярэджваюць" ліхачоў, а штрафы выпісваюць вельмі неахвотна.

Аўтамабілісты скардзяцца, што ў горадзе нават стала праблематычна з'ездзіць на аўтамыйку: некаторыя з іх расейцы сталі выкупляць цалкам на тыдзень - каб не стаяць у чэргах.

Або вось выпадак. У цэнтры горада аўтамабіль з расейскімі нумарамі і сцягам "Газпрама" рассякаў прама па тратуары, а яго кіроўца і пасажыры ніяк не маглі ўзяць у толк, чаму мясцовыя ня разбягаюцца і дарогу не саступаюць. Кажуць, ледзь не дайшло да рукапрыкладства. Супрацоўнікі міліцыі, якой не вуліцах горада поўна, на сітуацыю ніяк не рэагавалі.

Беларусаў, якія не якія звыкнуліся да маёмаснай і каставай сегрэгацыі, раздражнее і той факт, што горад "гудзе" ўвесь тыдзень, а іх на гэтыя канцэрты ніхто не запрашае. "Газпрам" у якасці "прэзента" паабяцаў пускаць усіх жадаючых толькі на адзін канцэрт, на якім выступаць J: МОРС, "Воплі Відаплясава", "Zdob Si Zdub". На ўсе астатнія мерапрыемствы - уваход строга па запрашэннях. Нават білеты не прадаюць.

Адзін мясцовы жыхар здзіўляецца: "Узялі так пацаны і па прыколе горад знялі на тыдзень! Хутка купяць назусім! Вось тады зажывем!". Сапраўды, на гэтым свяце жыцця гараджане адчулі сябе чужымі. Ні ў адзін рэстаран, кафэ або парк схадзіць адпачыць на гэтым тыдні нельга: усюды маса п'яных газавікоў, якія, як сцвярджаюць карэнныя жыхары, час ад часу паводзяць сябе вельмі агрэсіўна.

Зараз у краіне то тут, то там ўспыхваюць гарачыя спрэчкі: а ці трэба наогул радавацца рэзкаму павелічэнню расійскіх турыстаў? Адны кажуць, што гэта добра: людзі грошы ў краіну прывозяць. Іншыя абураюцца: прыбытак разбяруць па кішэнях вярхушка і бізнес-эліта, а хамства прыходзіцца цярпець пераважна насельніцтву.

Чакаць, што расійскі турыст стане цішэй, спакайней і ветлівей, мяркуючы па яго паводзінах у Турцыі, Егіпце і Тайландзе, пакуль не прыходзіцца. Бо гэтыя паводзіны амаль не залежыць ад таўшчыні кашалька.

**Максім Швейц**
**www.rosbalt.ru**

ЧЭМПІЯНАТ СВЕТУ – ХАКЕЙ

# ОЧЕРЕДНОЕ ПОЗОРИЩЕ

**Я редко соглашаюсь с Александром Лукашенко. Но в данном случае готов подписаться под его словами.**

Давеча глава государства признался, что ему стыдно за белорусский хоккей. «Это – позорище», – заявил Лукашенко.

И тут не поспоришь. На чемпионатах мира сборная Беларуси третий год подряд занимает 14-е место – притом, что еще недавно стабильно боролась за попадание в первую восьмерку.

А чем в это время озабочено хоккейное руководство? Оно занято тем, чтобы не допустить появления на трибунах бело-красно-белых флагов!

Вскоре после назначения нынешнего председателя федерации хоккея Евгения Ворсина Александр Лукашенко напутствовал его: «С чехами нам надо играть на равных, у финнов вы запросто можете выигрывать… Почему мы говорим о результатах Словакии, как о чем-то недостижимом?.. Или о результатах Швейцарии, которая еще вчера вообще в хоккей не умела играть?»

С тех пор прошло всего три года. Наше хоккейное хозяйство, возглавляемое флагоборцами, захирело до такой степени, что национальная сборная проигрывает не только Швейцарии, но и Франции, Дании, Норвегии… Какие уж там победы запросто над финнами! Иногда удается у Словении выиграть, но тоже уже не всегда.

А между тем, если кто забыл, на следующем чемпионате мира, который состоится в мае 2014-го, сборной Беларуси была поставлена задача попасть в тройку призеров. Сейчас это уже выглядит, как анекдот – помыслы уже скорее о том, как бы не опростоволоситься и не вылететь из элиты на глазах у собственных болельщиков.

Случившееся с белорусским хоккеем весьма символично. Этот вид спорта возвели в культ, поскольку им увлекся глава государства. Как следствие, на развитие хоккея не жалели ни денег, ни административного ресурса. Но после некоторого периода относительного благополучия и стабильности на выходе получился пшик и кризис. Позорище одним словом.

Это определение вполне подходит и к истории с участием дружины Лукашенко во Всероссийском фестивале по хоккею среди любительских команд в Сочи. На этот турнир наши любители побеждать поехали, имея в составе аж 10 профессиональных игроков.

Такая тактика давно приносит успех президентской команде. В регламенте домашнего рождественского турнира среди любителей для неё сделана эксклюзивная поблажка, допускающая участие не более 6 игроков, участвующих в открытом чемпионате Беларуси по хоккею (то есть профессионалов). Но и это правило не соблюдается. Например, в 2012 году за команду Лукашенко выступали сразу 9 действующих хоккеистов. Мудрено ли в таких условиях занять первое место?

Но что дозволено в Минске, то не дозволено в Сочи. Там команде Belarus просто засчитали техническое поражение. Разобидевшиеся «любители» покинули турнир со скандалом.

Если бы выборы в Беларуси судили честно, то Лукашенко и там ждала бы дисквалификация. Но, увы, здесь царит игра без правил, в которой главный арбитр публично называет себя «членом команды президента».

Однако сколько веревочке ни виться, закончится всё как в сказке (и хоккее) – разбитым корытом. Ни один Кощей не побеждает вечно.

**Вадим Ливнев**

**Заснавальнік:** Салодкі Сяргей Аляксандравіч
**Рэдактар:** Шчамлёў Аляксандр Міхайлавіч

**Адрас рэдакцыі:** 211262, Шумілінскі раён, п/а Амбросавічы.
Тэл. 3-73-74, маб. +375299870742.
Газета выдаецца з верасня 2000 г.

**Падпісана да друку 28.05.2013 у 18.20.**
Наклад: 290 асобнікаў.
Выдаецца адзін-два разы на месяц на беларускай і расійскай мовах.

Рэдакцыя можа друкаваць артыкулы дзеля палемікі, не падзяляючы пазіцыі аўтараў.
Друкуецца пры дапамозе аднадумцаў.
Распаўсюджваецца бясплатна добраахвотнікамі.